# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 42 (555) ГОД XI БЕЛАСТОК, 17 КАСТРЫЧНІКА 1966 г. ЦАНА 60 ГР.

У НУМАРЫ



## У Прэзідыум ГП БГКТ

**28 верасня гэтага года адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення, гэтым разам у Варшаўскім аддзеле БГКТ. У пасяджэнні ўзялі ўдзел члены мясцовага праўлення, а таксама прадстаўнікі Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку тав. Уладзімір Сянкевіч і беластоцкага УСВ тав. Мікалай Куц.**

**Мэтай выязднога пасяджэння Прэзідыум было запазнанне з працай Праўлення аддзела БГКТ у Варшаве — асяроддзі спецыфічным, не характэрным для нашай дзейнасці. Усе прысутныя згодна падкрэслівалі, што базай дзейнасці нашага Таварыства ў асноўным з'яўляецца вясковае асяроддзе. Актыў гарадоў Беласточчыны выкарыстоўваецца таксама дзеля актывізавання вёскі. Варшаўскі актыў БГКТ мае своеасаблівыя ўмовы і заданні. З агульнага ліку каля 200 членаў, палова — гэта людзі з вышэйшай адукацыяй або студэнты, выходцы з Беласточчыны. Яны асталіся ў сталіцы як спецыялісты, але нягледзячы на сталае месцапражыванне не затрачваюць сваёй нацыянальнай прыналежнасці і лакальнага прывязання да родных мясцін. Аб патрэбе ўтрымлівання з гэтымі асяроддзямі кантактаў і аказвання ім дапамогі гаварылі старшыня Праўлення аддзела інж. Юрка Бусловіч, штатны працаўнік Віктар Швед і іншыя члены.**

**Не так, аднак, думае частка беларускай моладзі. Пасля здабыцця сярэдняй адукацыі яна спыняе ўсе кантакты са сваім асяроддзем, а часта саромеецца яго, абмінае людзей, пагарджае моваю. Пасля заканчэння вышэйшых установ падымае ў сталіцы абы-якую працу, але не хоча вярнуцца на Беласточчыну і ўладкавацца згодна з патрэбамі насельніцтва і атрыманымі кваліфікацыямі.**

**На неабходнасць працы з гэтай моладдзю звярталі ўсе прысутныя на пасяджэнні асаблівую ўвагу. Былі прадыскутаваны некаторыя формы гэтай працы.**

**Абмяркоўваліся таксама пытанні выкарыстання сіл Варшаўскага аддзела БГКТ у пашырэнні нашай арганізацыі ў некаторых гарадах цэнтральнай і паўночна-заходняй Польшчы. Тут пражывае значная колькасць беларускага**

(Працяг на стар. 4)



**Вядомы ў Польшчы і ў свеце мастак з Новай Гуты, Валянцін Габрысяк так сабе ўяўляе белавежскую восень. Яго малюнак прыкоўвае вочы супастаўленнем яркіх колераў, якіх, на жаль, не відаць на нашым здымку.**

Аблічча Белавежы 1)

## Белавежа мастакоў

Усе мастакі ад самага пачатку ўзнікнення жывапісу адчувалі глыбокую сувязь з прыродай. У шуме дзікай пушчы, у выцці віхраў і спяванні птушак, у паху кветак і бляску сонца, у гомане марскіх хваль і штодзённасці быту — знаходзілі яны адлюстраванне ўласных перажыванняў, мар і тугі.

А Белавежа, як горы, у верасні найпрыгажэйшая. Яркія, разнастайныя колеры дрэў, на якіх зіхацяць прамені нізкага асенняга сонца. Лісце і галінкі падсветленыя знізу або збоку, выяўляюць сваю трохгранную структуру, затрачваюць плоскасць.

Таму хіба вераснёвыя мастацкія сустрэчы ў Белавежы здабылі высокае прызнанне сярод жывапісцаў і скульптараў усяе Польшчы.

Вось у верасні ўжо другі раз Белавежскі гатэль ПТТК запоўніўся мастакамі. Сярод іх: **Яцэк Сяніцкі, Раймонд Земскі, Збігнеў Бжазоўскі, Яніна Касінская, Тадэуш Дамінік** — дэкан факультэта жывапісу Акадэміі мастацтва ў Варшаве, **Бэнан Лібэрскі, Юзэфа Галяс.** Гэтыя прозвішчы ў свеце мастацтва цэняцца вельмі высока.

Як яны сябе адчуваюць у Белавежы? Мастак **Валенты Габрысяк** з Новай Гуты пад Кракавам:

— Я тут ужо другі раз. Ачароўвае нас усіх багацце натуры. Нядаўна пабываў я ў Францыі, Бельгіі і Галандыі. Крытыкі, якія ацэньвалі намаляваныя мною там карціны, гаварылі, што ў іх чуецца «дух усходу». Гэта мне асталося з папярэдняй пабыўкі на «Белавежскім пленеры». Сустракаемся мы тут з рэдкай гасціннасцю. Людзі тут дбайныя, любяць чысціню і сардэчнасць ва ўзаемных суадносінах. Падобных мерапрыемстваў у Польшчы ёсць даволі многа, але тут, у Белавежы, найлепш мне падабаецца.

Знаёмлюся са скульптарамі. Паявіліся яны ў Беластоцкім ваяводстве ўпершыню. Найперш у жнівені ў Гайнаўцы, а затым у верасні разам з мастакамі — у Белавежы. Вось адна з іх — **Крыстына Данілевіч-Кавальчык:**

— Маем дасканалыя ўмовы да творчай працы. Арганізатары далі нам прасторны, багата асветлены, будынак. Маем добрае харчаванне і вялікую падборку розных сартоў дрэва для разьбы — нават афрыканскае чырвонае дрэва. Каб толькі ахвота была да працы!

— А каб вы чулі, як прыгожа, проста незабыўна равуць алені ноччу ў пушчы! А як смакуе бігас ля агню — з захапленнем дабаўляе другі мастак скульптар **Ірэна Надахоўская** з Варшавы.

Яшчэ наведваю сваю рэдакцыйную сяброўку-мастака — **Тэрэсу Бэйнаровіч.** Яна на Белавежскім пленеры з'яўляецца правай рукой камісара Мікалая Валкавыцкага. Як заўсёды, поўная энергіі і радасці жыцця. Прашу, каб спрабавала неяк падвесці вынікі месячнай творчай працы артыстаў у Белавежы:

— Было тут нас разам каля 30 жыва-

(Працяг на стар. 4)

РАЗМОВА З ВОПЫТНЫМ ГАСПАДАРОМ

## Калі гаспадар умее лічыць

Дзядзька Пучынскі гаспадарыць на II гектарах, з таго 8,75 га ворнай зямлі. Каб забяспечыць зямлю ўгнаеннем, трэба трымаць адпаведную колькасць жывёлы, каля дзесятка штук быдла, да двух дзесяткаў свіней з маладняком, два кані, авечкі. З мінеральным угнаеннем гаспадар клопатаў не мае, бо мае больш трох гектараў на кантрактацыі. (Сяляне, якія падпісалі ўмовы на кантрактацыю, маюць першынства ў атрыманні штучных угнаенняў).

### КАРМАВАЯ БАЗА

Каб утрымаць такую колькасць жывёлы, патрэбны ў гаспадарцы немалыя запасы кармоў. Пучынскі першы ў павеце залажыў сіласныя цэментаваныя ямы. Цяпер мае 4. Што сіласуе? Усё: бурачанае і капуснае лісце, кукурузу, атаву, травы.

У Пучынскіх сілас робіцца ад 1958 года і яшчэ не здарылася выпадку, каб не ўдаўся. Чаму ж іншым сялянам сілас не ўдаецца? У тым жа Тарнаполі ў Данілы Буры сапсавалася цэлая яма сіласу з такіх добрых кампанентаў як капуста і бурачанае лісце.

— Здзіўляюся, чаму не ўдаецца, — гаворыць дзядзька Пучынскі. — Можа людзям ведаў не хапае ў гэтых справах? Бо я, як пачынаў, нямала перачытаў літаратуры аб сіласаванні. Лічу, што галоўнае — добра ўтрамбаваць і накрыць яму, каб была адпаведная тэмпература. Добра было б, каб наш грамадскі аграном меў больш часу для сялян, каб часцей мог памагчы людзям непасрэдна пры заквасцы. А пакуль што аграном наш завалены грамадскай работай, выездамі, справаздачамі.

### СПРАВА РЭНТОЎНАСЦІ ГАСПАДАРКІ

**Кантрактацыя.** Пучынскія кантрактуюць бульбу, сырадэлю, балотную віхліну. У мінулым годзе кантрактавалі і лубін. Вельмі добра аплачваецца кантрактаваць бульбу. У Пучынскіх уся бульба аднаго гатунку, добра ўгноена згодна з усімі нормамі. У гэтым годзе спадзяецца, што збярэ не менш 300 ц з гектара (сярэдні ўраджай у ваяводстве 170 ц/га).

За 1 ц бульбы па кантрактацыі плацяць 180 зл. Няцяжка пералічыць,

(Працяг на стар. 5)



**Дзядзька Пучынскі са сваім мерынoсам-ласунком.**

# Тыневічы

## Наша акцыя — Крыптанім „В"

### ТЫНЕВІЧЫ — АД ТЫНА

А было гэта так:
З нараўскага праваслаўнага манастыра шляхам на Бельск і Драгічын выбралася трох манахаў. Спыніліся на ўзгорку сярод лесу, расклалі агонь. Потым ужо пастаянна спыняліся на тым самым месцы. Пасля нейкага часу гэтыя манахі пабудавалі тут сабе **тын** — загарадзь з тоўстых бярвенняў, каб абараняла іх ад драпежных звяроў.
Памалу **тын** разрастаўся, побач яго пасяліліся мужыкі, людзі пачалі карчаваць лес і займацца земляробствам. У Нарве жыхароў недалёкага **тына** пачалі называць тыневічамі. Так ужо і асталося да сённяшняга дня. Ад назвы жыхароў пачала называцца цэлая вёска.
Цяпер ёсць дзве вёскі Тыневічы: Вялікія і Малыя. Раздзяляе іх невялічкая даліна не больш як на паўтара кіламетра. У Тыневічах Вялікіх жыве зараз 86 гаспадароў, а ў Малых — 48.
Там, дзе калісьці манахі пабудавалі свой **тын**, сёння стаіць невялічкая царкоўка. У кастрычніку (на Лукаша) адбываюцца ў Тыневічах фесты.

### ШТО ЧЫТАЮЦЬ?

Прыемна адзначыць, што найбольш папулярнаю ў Тыневічах газетай з'яўляецца наша «Ніва». Яе пастаянна падпісвае 39 жыхароў. Па 20 экземпляраў ідзе ў Тыневічах газет: «Пшыспособене рольнічэ», «Наша весь» і «Хлопска дрога». «Аграхімію» выпісвае 18 гаспадароў, а «Беластоцкую Газету» — 16. Апрача гэтага прыходзіць у Тыневічы каля 10-ці экземпляраў розных іншых газет.

### СПУЛДЗЕЛЬНЯ ПРАДУКЦЫЙНАЯ

Першая тыневіцкая спулдзельня прадукцыйная была сарганізавана ў 1952 годзе. Існавала 5 год і развалілася, як многа іншых. Налічвала яна 18 членаў. У 1958 годзе 7 гаспадароў рашылі зноў спалучыць свае гаспадаркі. Разам з дзяржаўным фондам зямлі ў тыневіцкіх спулдзельцаў налічваецца 106 гектараў поля.
Спулдзельня мае спрыяльныя ўмовы для гадоўлі быдла. Іх сенажаці раскінуліся на 40 га балота. Супольная чарада кароў складае ў іх аднак ледзь 16 штук. Даволі высокі даход дае спулдзельцам гадоўля мясных курэй, так званых брайлераў. Зараз займаюць яны палавіну спулдзельчай гадоўлі. Ёсць там іх каля 9-ці тысяч штук. За мінулы год працадзень выпаў нядрэнны — 55 зл.



Надзя Крупіч з'яўляецца студэнткай Гданьскай вышэйшай педагагічнай школы. У Тыневічах праходзіла практыку, заступаючы кіраўніка школы Яна прыгожа спявае і дасканала грае на гітары, акардэоне і скрыпцы. Прыдалася б такая настаўніца ў Тыневічах. Мо яна разварушыла б сонную атмасферу ў тыневіцкай моладзі. На жаль, па вясёлай настаўніцы асталіся толькі добрыя ўспаміны.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ ГУРТОК

Налічвае 28 членаў. У яго праўленне ўваходзяць: Мікалай Франкоўскі, Мікалай Астапкевіч і Андрэй Пашка. Гурток існуе ўжо 5 год. Пакуль што мае толькі 2 абмалотачныя агрэгаты. Вялікі апетыт тыневіцкія гурткоўцы маюць на трактары. У сельскагаспадарчым банку ляжыць на концы іхняй вёскі каля 400 тысяч злотых невыкарыстанага дзяржаўнага фонду развіцця сельскай гаспадаркі. За гэты фонд ідзе барацьба. Спулдзельня хоча яго сабе, а гурток — сабе. Тым часам гаспадары за трактарамі бегаюць у Курашава або ў Даратынку.
Трэба, каб у Гайнаўцы падумалі, якім чынам развязаць гэты спор. Цяперашняе становішча зусім непатрэбна паглыбляе раскол між спулдзельцамі і аднаасобнікамі.
— Многа чаго змянілася, — гаворыць селянін, Панцеляймон Франкоўскі. — І ўсё да лепшага ідзе. А найлепш, што наша балота асушылі. Бывала, кожную горстку сена прыходзілася на ўласнай спіне выносіць. А цяпер касілкай траву зрэзаў, на месцы высушыў і ў воз забраў. Людзі «сеянку» завялі, дасканалыя сенажаці маюць. І жывёле выгода. Калісьці па дзесяць разоў прыходзілася цягнуць вяроўкамі каровы з балота. Неаднойчы ногі ім павырывалі. Падумайце толькі — 1600 гектараў дрыгвы загаспадаравалі сяляне ў нашай і ў другіх навакольных вёсках. У Тыневічах звыш 20 гаспадароў мае ўжо ўласныя конныя касілкі.

### УРАДЖАЙ

Недзе грахоча малацілка. Іду на яе гоман. Адзін абмалотачны гурткоўскі агрэгат абслугоўвае Павел Стаськевіч. Аказваецца, што ў першую чаргу малоцяць удаве, якой муж загінуў яшчэ на вайне.
— Як сёлеташні ўраджай? — пытаю.
— З 6-ці коп намалаціў ужо 10 цэнтнераў, — адказвае машыніст.
Значыць, ураджай добры. Рэдка бывае, каб капа жыта дала звыш 10 пудоў.

### МАЛАЧАРНІ

У абедзвюх тыневіцкіх вёсках сяляне пабудавалі новыя мураваныя зліўныя пункты малака. У Тыневічах Вялікіх штодзень зліўны пункт прымае летам звыш паўтары тысячы літраў малака. Зараз — каля тысячы літраў. Асноўнай крыніцай даходу для тыневіцкіх гаспадынь з'яўляюцца яйкі і малако. Варта аднак падумаць пра аднаўленне пароды тыневіцкіх кароў, каб павысіць іх малочнасць і якасць. Зараз тыневіцкія кароўкі даюць малако, у якім у сярэднім 3—3,5 працэнта тлушчу. Гэта малавата.

### КЛОПАТЫ

Сяляне ў Тыневічах наракаюць, што ў нараўскім ГС-е не хапае штучных угнаенняў — гэта значыць няма іх тады, калі яны найбольш патрэбныя.
Не хапае перш за ўсё суперфасфату Часта здараецца, што прадаўцы прымушаюць браць угнаенне зусім непатрэбнае гаспадару тады, калі ён хоча купіць тое, за якім прыехаў. Найчасцей дадаюць на сілу мінулагоднюю выпаласканую дажджамі вапну. Гаспадары плоцяць грошы і пакідаюць яе ГС-у. Калі неабходна было даправіць сенажаць штучнымі ўгнаеннямі, сяляне ездзілі за імі аж у Храбалы, або ў Шасталы ў Бельскім павеце.

### КАРОВЯЧАЯ ХВАРОБА

У Тыневічах напала на каровы нейкая хвароба. Карова перастае есці і памалу сохне, аж урэшце здыхае. Пачалося найперш у Стаськевіча. Тры каровы — адна за адной прапалі ў яго.
— 700 злотых, — гаворыць ён, — аддаў я на лячэнні. Ветэрынары гаварылі, што я іх голадам мару, але гэта няпраўда. Чаго, як чаго, але сена ў нас заўсёды хапала. Амаль кожны гаспадар зараз ахвотна прадаў бы некалькі тон.



Вёска Тыневічы.



Зямлі ў Тыневічах Вялікіх і Малых налічваецца 1230 гектараў.

Дзве каровы канчаюцца ў Кастуся Сілівонюка, а Франкоўскі адну карову хутчэй прадаў за 2 тысячы зл., хаця купіў яе за 7, а другую адставіў у нараўскую лячэбніцу.
Цікава, што ў гайнаўскай павятовай лячэбніцы хатняй жывёлы нічога не ведаюць пра гэтую хваробу. Неабходна, каб ветслужба выявіла тыневіцкую загадку.

### ТЫНЕВІЦКАЯ КУЛЬТУРА

На электрычным стаўбе каляровая афіша аб'яўляе сеанс кінафільма савецкіх рэжысёраў А. Смірнова і Б. Яшына — «Клачок айчыннай зямлі». Святліцы ў Тыневічах няма. Кінаперасоўка абсталёўваецца ў школе. Цесна тут і нявыгадна. Тыневічы маюць фільм кожны тыдзень. Абслугоўвае іх нараўскае кіно.
Апрача гэтага — у вёсцы два тэлевізары: адзін агульнадаступны ў школе, а другі прыватны, знаходзіцца ў старшыні спулдзельні прадукцыйнай. У школе кожны вечар поўна людзей. Тэлевізар цягне, бы магніт.
І на гэтым канчаецца тыневіцкая культура. Па праўдзе, няма дзе нават наладзіць талковай вечарынкі. А моладзі ў абедзвюх тыневіцкіх вёсках многа. Спадзяюцца яны, што незадоўга пачнецца будова новай школы, а стары драўляны будынак асветныя ўлады перададуць ім на святліцу.
Але з гэтай школай нічога пэўнага. Зараз 6 настаўнікаў вучаць у васьмі класах 144 вучні. Школьныя класы раскінутыя па сялянскіх хатах. Няма дзе наладзіць практычных заняткаў.
Настаўнікі наракаюць на слабое абеспячэнне мясцовай крамы харчавымі прадуктамі. Хлеб, як кажуць, бывае ўсяго некалькі разоў у год. У краме дастаць можна толькі сала і шмалец. За ўсім прыходзіцца ездзіць аж у Нарву або далей.



Тыневіцкія гаспадыні трымаюць 1873 курыцы і пеўні, не лічачы, зразумела, спулдзельчай фермы брайлераў. Прадавец Аляксандр Леўчук найбольш яек прымае вечарам, калі людзі вернуцца з поля. За чысціню і парадак у краме атрымаў ён у мінулым годзе 1300 зл. узнагароды.

В. Рудчык

# Белавежа мастакоў

(Працяг са стар. 1)

пісцаў і каля 10 скульптараў, — сцвярджае яна. — Спадзяемся каля 200 мастацкіх работ. Кожны мастак абавязаны адну працу пакінуць у Беластоку. Пасля некалькіх год складуць яны асноўны фонд **Галерэі сучаснага мастацтва,** якая плануецца ў Беластоку. Амаль усе палотнішчы і рэзьбы можна будзе пабачыць на выстаўцы, якую незадоўга наладзім у Беластоку. Маем таксама намер зрабіць у недалёкай будучыні агульнадзяржаўную выстаўку ўсіх мастацкіх работ, якіх творчы замысел выводзіцца адсюль, з Белавежы.

— А як ты сябе адчуваеш?

— Горла баліць ад спявання. Наладзілі мы нядаўна ў Старой Белавежы супольнае вогнішча. Радавітыя белавежцы, якія нас туды прывезлі, разагрэўшыся бігасам, пачалі спяваць беларускія і рускія песні, а я ім дапамагала. Потым аказалася, што я была найлепшым запявайлам.

Мастакі ў Белавежы апрача таго, што маюць дасканалыя ўмовы да творчай працы, наладжваюць трывалыя сяброўскія кантакты, знаёмяцца з рознымі напрамкамі сучаснага мастацтва, якое завецца **«Агульнапольскі Белавежскі пленер».**

**В. Рудчык**
Фота аўтара



**Гавораць, што скульптар Крыстына Данілевіч-Кавальчык з Гданьска выбрала найтаўсцейшае бервяно, якое знайшлося ў Белавежы. Пасля некалькіх дзён карпатлівай працы пачаў зарысоўвацца сілуэт жанчыны.**



**Сцяпан Рыбі — папулярны ў Беластоку мастак — заяўляе: «Я стараюся маляваць тое, чаго ўжо няма». І намаляваў царскі палац у Белавежы, пасля якога не асталося ўжо нават следу. У яго творчым уяўленні прадстаўляецца гэты палац вось як на здымку (правы малюнак).**

# У Прэзідыум ГП БГКТ

(Працяг са стар. 1)

**насельніцтва, якое адчувае патрэбу сувязі з БГКТ. Першыя выезды далі добрыя рэзультаты.**

**Зразумела, што найшырэй абмяркоўвалася праца ў клубе і яе далейшыя формы. Дагэтуль эфектыўнымі былі аўтарскія сустрэчы, дыскусійныя вечары, вечарыны, ладзіліся мастацкія выстаўкі. У клубе ёсць краёвая і замежная прэса, бібліятэка. Пачынаючы ад 1.X. пры Варшаўскім аддзеле БГКТ будзе весціся хор.**

**Члены мясцовага праўлення аддзела звярталі ўвагу на невялікую фінансавую, а часамі і арганізацыйную дапамогу ГП БГКТ у іх працы. (ую)**

# Страхаванне ў школах

Нягледзячы на агромныя намаганні міліцыі, гарцэрства і іншых арганізацый, якія вядуць прафілактычную дзейнасць, колькасць выпадкаў сярод дзяцей і моладзі велізарная. І што горш, з года ў год павялічваецца. Хопіць сказаць, што ў 1964 годзе ПЗУ прыняло 34 тысячы заяў аб выпадках, а ў 1966 годзе — 37 495.

Каб запэўніць як мага хуткую і паспяховую матэрыяльную дапамогу пашкадаваным ПЗУ ў паразумленні са школьнымі ўладамі ўвяло страхаванне школьнікаў. Звяртае яно кошты лячэння пацярпеўшага ў выпадку, а таксама выплачвае грошы на выпадак смерці або інвалідства. Незалежна ад вышэй сказанага, ПЗУ звяртае кошты аднаразовага набыцця ўказаных лекарам пратэз, а таксама кошты спецыяльных абаронных сродкаў і кошты прафесіянальнай перакваліфікацыі інвалідаў.

Памятаю выпадак у адной са школ Сямяціцкага павета. Гэта было 3 гады таму назад. Дзеці пасля званка хутка пабеглі на перапынак. Раптам на двары пачуўся енк хлопца. Прыбег дыжурны настаўнік і ўбачыў ляжачага побач сходкаў хлопца. Паклікалі хуткую дапамогу. Лекар падазраваў зламанне косці ў назе. Так і было. Шасцікласнік Уладзік праляжаў 5 тыдняў у бальніцы, а потым даўжэйшы час хадзіў у гіпсе. Бацька Уладзіка не быў багаты, а брат і сястра, якія вучыліся ў горадзе, патрабавалі таксама многа грошай. Плаціць за бальніцу не было чым, а сума была немалая. Увесь гэты клопат быў толькі таму, што калі Уладзік пайшоў у школу, бацька не даў грошай на штрафаванне хлопца ад нешчаслівых выпадкаў. З дапамогай прыйшоў кіраўнік школы, у якой вучыўся Уладзік. Аказалася, што школа была страхавана поўнасцю, а ў такіх выпадках дапускаецца, што некалькі вучняў (найбяднейшых) таксама ахапляюцца страхаваннем. А як Уладзік зламаў нагу? Проста. Скочыў з лесвіцы. Дык на гэты раз удалося бацьку Уладзіка. ПЗУ, паклікаючыся на агульнашкольную «полісу», заплаціла за бальніцу. Але што было б, калі б не было агульнашкольнага страхавання? Нярэдка яшчэ здараецца на вёсках, што некаторыя бацькі думаюць, што ПЗУ — гэта адно і тое ж, што сацыяльнае забеспячэнне, г. зн. бясплатна лячыцца на ўсялякія хваробы і па абніжанай цане купляць лякарствы. Сцвярджаем, што гэта розныя паняцці і нельга іх мяшаць. Страхаванне ў сувязі з тым неабходнае перад усім на вёсках.

Безумоўна, страхаванне не абеспячае перад болем, калецтвам ці смерцю. І таму трэба дапамагаць усім тым, хто вядзе прафілактыку ў гэтай галіне. Але страхаванне гарантуе матэрыяльную дапамогу пры нешчаслівых выпадках. Страхаванне ахоплівае выпадкі ў школе і дома, у дарозе ў школу і са школы, у лагерах і т.п. Праводзяць яго кіраўнікі школ, а гадавая складчына выносіць толькі 15 зл. ад асобы. **Страхаванне вучняў праводзіцца толькі да 30 кастрычніка.**

На заканчэнне хочам паінфармаваць, што ў 1965 годзе страхаваннем ад нешчаслівых выпадкаў ахоплена 8.336.675 школьнікаў. ПЗУ выплаціла больш 96 мільёнаў злотых павіннасці за 37.495 унесеныя выпадкі.

А.К.

# База перад усім

Сядзіба Гайнаўскага ПЗГС-у пры вуліцы Горнай падобная на вялізны пляц будоўлі. Цяпер ПЗГС будуе, так сказаць, сам сабе. Час будовы вясковых крамаў на Гайнаўшчыне закончыўся — ёсць дзе гандляваць у вёсках, але не заўсёды ёсць чым гандляваць. Патрэбны вялікія склады пры ПЗГС, каб магчы памясціць вялікую масу тавараў і належна забяспечыць іх ад марнацыі. На першы план высунута будова складаў для сельскагаспадарчых машын, што іржавеюць пад голым небам на гектаравым пляцы, зарослым травою. Многія машыны змарнаваліся ў новым, фабрычным стане.

Перад новабудаванымі складамі бачыў я вялікія аблогі свежапрывезеных тавараў. Літаральна на днях знойдуць яны адпаведнае месца — чыстае, сухое, пахучае яшчэ свежым тынкам і цэглаю. Для патрэб складаў і майстэрняў будзе пабудаваны артэзіянскі калодзеж (студня), з якой можа скарыстаць нават значная частка горада Гайнаўкі, а перш за ўсё вуліца Горная, былая вёска Горная пад Гайнаўкаю. Можна будзе пабудаваць вадаправод і правесці ў хаты краны з бягучаю вадою. Гэта не абы-якая справа, над якою ўжо павінна думаць вуліца Горная са сваімі не заўсёды глыбокімі і не заўсёды чыстымі студнямі. Аказія прыходзіць сама, і трэба яе выкарыстаць, узяцца за будову вадаправода, прыкласці сваю руку да чыну, да дарэмнай работы на карысць усім і сабе. Ба, не толькі склады будуць аздабляць сядзібу Гайнаўскага ПЗГС-у, і не толькі клумбы кветак з ружамі навокал будынкаў, не толькі высакарослыя таполі і густыя газоны. Каля складаў, уніз да рачулкі, ёсць намер выкапаць саджалкі для гадоўлі рыбы, а таксама купальны басейн. Праўда, гэта яшчэ толькі намеры, але гледзячы на тое, як Гайнаўскі ПЗГС рэалізуе свае намеры, можна быць пэўным, што будуць саджалкі, басейн і іншыя выгоды не толькі працаўнікам ПЗГС-у, ды, урэшце, не толькі для выгоды ПЗГС-аўскай вуліцы Горнай.

(С.Я.)

# Пра магчымае

Бурны рост прамысловасці і гандлю патрабуе штораз больш рабочай сілы, асабліва, мужчынскай. Далёка не шукаючы, у нашай прамысловай Гайнаўцы наглядаецца найбольшы прырост рабочай сілы мужчынскай, а разам з тым, найбольшы прырост рабочай сілы жаночай, якая ў процівагу да мужчынскай тут амаль нікому непатрэбная.

Кажам, што існуе і нарастае беспрацоўе жанчын.

Перавандраваўшыя ў Гайнаўку мужчыны з сем'ямі знаходзяць працу, але жонкі, сёстры ці дочкі гэтых мужчын ужо не знаходзяць працы альбо знаходзяць яе з вялікімі цяжкасцямі.

У вёсцы мужчына і жанчына з'яўляюцца роўнымі гаспадарамі, адно без другога не можа абыйсціся на гаспадарцы. Іначай кладзецца лёс жанчыны ў горадзе, калі яна пачынае жыць толькі з рук працы свайго мужа. Навыклая да гаравітай і годнай працы на гаспадарцы вясковая жанчына адчувае сябе дзіўна ў горадзе, дзе падставаю яе жыцця, быту з'яўляецца ўжо не яе праца разам з мужчынай — жніво, капанне бульбы і т.п. — але заробкі, якія прыносіць мужчына з фабрыкі да дому. Яе рукі, непрывыкшыя чакаць мужчынскай ласкі, самыя шукаюць працы.

Гэта сітуацыя тым больш крыўдная ім, што ёсць рэальныя магчымасці вырашэння яе шляхам развівання саматужнай, ці як назавем гэта інакш — хатняй прамысловасці. І на вырабы гэтай прамысловасці існуе вялікае запатрабаванне не толькі на замежных рынках, але ў першую чаргу на нашым унутраным рынку.

Як на іронію гэтага лёсу, саматужная прамысловасць пачынае развівацца ў вёсках — папулярныя саламяныя вырабы і т.п. У вёсцы саматужная прамысловасць дае толькі дадатковы даход, які мінімальна ўплывае на актывізацыю сельскагаспадарчай прадукцыі, а хутчэй за ўсё спіхае на задні план цікавасць гаспадароў да павелічэння даходнасці з зямлі ды настаўляе іх на прадукцыю вырабаў.

У горадзе саматужная прамысловасць з'яўляецца неабходнасцю, неабходнасцю для тысяч рабочых сем'яў, якія не могуць у нашых умовах дазволіць сабе на ўтрыманне толькі са сродкаў галавы сям'і.

У нумары «Нівы» ад 7 жніўня гэтага года пісаў я аб беспрацоўі сярод жанчын, асабліва ў Гайнаўцы і Бельску. Неўзабаве пасля апублікавання гэтага артыкула атрымаў я пісьмо ад аднаго з беластоцкіх дырэктараў саматужнай спулдзельні. Гэты дырэктар сцвердзіў, што яго фірма здольная стварыць у Гайнаўцы філіял, у якім знайшло б працу не менш чым сто жанчын — і то працу з добрым заробкам. Дырэктар наракаў на бяздзейнасць гайнаўскіх улад і сцвердзіў, што не толькі адна яго фірма здольная прычыніцца да вырашэння гэтай праблемы. Не буду ўнікаць у тое, наколькі рацыю мае гэты дырэктар, але ягонае прызнанне, жалі лічу тут характэрнымі.

Ёсць выйсце з гэтай жаночай праблемы.

(С.Я.)

А. Баршчэўскі, В. Швед.

# Дружба праца

## ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА

### БОСЕНЬ... ВОСЕНЬ...

Скрозь стагі, стагі ў зялёных світах...
Звезлі з поля залатое жыта,
А бярозы, клёны, дзе ні глянеш —
Апранулі жоўтае убранне.
Быццам сарамлівая дзяўчына,
Аж гарыць ад чырвані рабіна,
Вецер золкі па шляхах гуляе,
Дзе ні йдзе — чырвонцы растрасае,
Павукі паміж ялін і сосен
Колькі заснавалі новых кросен.
Восень... Восень...

А ля малатарань шумна, шумна...
Дзень і ноч гамоняць свірны, гумны.
Паплылі машыны ўжо шляхамі
З белымі, таўшчэзнымі мяхамі.
З хат выходзяць людзі, сустракаюць:
— Ах ты, восень, шчодрая якая,
Будзе ўсё — абнова ў кожнай хаце,
Будзе чым і госця частаваці... —
Кожнага прывецяць і папросяць,
Рады: жыць шчасліва давялося.
Восень... Восень...

Раніцой са шчэбетам вясёлым
Дзеці йдуць па вуліцах у школы,
Іх шляхі дзівосныя чакаюць,
А бацькі паверхі уздымаюць,
Рады, цэглу ложаць за цаглінай,
І растуць кварталы ў іх цяспынна,
А на полі зерняты радамі
Скрозь зямлю прабілі, што цвікамі.
І вясной, як забуяюць росы,
Зашуміць, загойдае калоссе.
Восень... Восень...
1952 г. Пятрусь Броўка

1. Адшукай у тэксце тыя эпізоды, якія адносяцца да зрокавых і слухавых апісанняў.
2. Якія пароды дрэў апрача апісаных паэтам выступаюць у тваёй аколіцы?
3. Што ведаеш аб розніцах у спосабах правядзення жніва і малацьбы даўней і зараз?
4. Напішы дамашнюю працу: «Жніво ў маёй вёсцы раней і сёння».

### БЕЛАВЕЖА

Хвоі высяцца, нібы вежы,
Над пажоўклым імхом палян.
Старажытная Белавежа —
Усхвалёваны акіян.

Дуб вячысты ў галлі кашлатым
Успамін аб мінулым збярог...
Прыязджалі сюды магнаты,
Паляўнічы трубіў у рог.

На сухі, парыжэлы верас
Пырскаў пенай крывавай дзік.
І паны мінялі звера,
Узнімаючы рогат і крык.

Мы сказалі магнатам: — Хопіць
Сыта бавіцца! — І павёў
Нашу роту сялянскі хлопец
Па заблытанай сцежцы ласёў.

Нас чакаў тут за кожнай купінай
Куль варожых смяротны рой.
Ваша воля, браты мае, куплена
Дарагою цаной — крывёй...

Белавежа, ты век не састарышся:
Надышлі маладыя дні.
Пра геройства маіх таварышаў
Хвойнай песняю празвіні!

Пімен Панчанка

1. Як разумееш словы паэта: «Прыязджалі сюды магнаты, паляўнічы трубіў у рог»?
2. Як адносіліся немцы да жыхароў з раёну Белавежскай пушчы?
3. На тэрыторыі якіх дзяржаў знаходзіцца Белавежская пушча?
4. Якую карысць мае з лесу чалавек?

*

Плыла, цалавалася хмара з зямлёй,
Аж жнеі сярпы пакідалі,
Бо ўгледзелі ўжо, як збягаюць па ёй
Маланкі
На жытнія далі.

Таму, што нясе яна мёд для пчалы
І робіць дарогу лягчэйшай,
Усе рэкі прыцягваць яе пачалі,
І хмара плыве да шырэйшай.
Сябе яна хоча ў тым люстры пазнаць,
Прыціхла,
На цыпачкі стала,
Глядзіць з вышыні ў пацямнеўшую гладзь,
Гладзіць,
Толькі плошчы ёй мала.

Зноў хмара злуецца, зноў, мусіць, з тугі
Кідае свае бліскавіцы,
Рассунуць хацела б яна берагі,
Хацела б
Краямі ўмясціцца.

І не ўпершыню з непакоем былым
Удаль адплывае без згадкі.
А следам за ёй,
Як за лёсам сваім,
Спяшаюцца воблакаў статкі.

Глядзяцца — адбітыя ў завадзяў шкле —
З нябёс у люстраную плошчу,
Красу сваю бачаць, блакіт свой.
Але
Я воблакам тым не зайздрошчу.

Хачу неспакойнаю хмарай грымець,
Маланкамі ўвесь апавіты,
Каб цяжка адразу было зразумець
Ці вокам акінуць, які ты.

Спакою не ведаць ні ноччу, ні днём
І не прыставаць у знямозе,
Вялікай любові дажджом
І агнём
Зямлю цалаваць па дарозе.
1940 г. Аркадзь Куляшоў

1. Выпішы з твора ўсе эпітэты і параўнанні.
2. Якія ў апісанні дамінуюць творы: зрокавыя ці слухавыя?
3. Чаму верш залічваецца да прыродаапісальнай лірыкі?

## ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК



Гарасімавічы, Дуброўскі павет. Ганак Уладзіслава Гедынскага выкананы ў 1963 г. Фота Ул. Юзвюк.

# Сучасная жанчына

### ФРАНЦУЗСКАЯ ШАРЛОТКА

Зараз маем восень багатую ў яблыкі. І ў сувязі з тым падамо вам, дарагія чытачкі, рэцэпт на цеста з яблыкамі.

1/2 кілаграма мукі, 1/4 кг маргарыну «Пальма» (адзін пачак), каля 15 дкг цукру (1 шклянка цукру — 20 дкг), 1/2 пачка парашку для цеста, 1 жаўток, 4 ложкі смятаны, ванільны цукар, крыху соку з лімона, 3/4 кг яблыкаў (не антонаўкі, яблыкі павінны быць цвёрдымі), арамат (найлепш апельсінавы).

Парашок змешваем з мукою, даем цукар, смятану, жаўток, ванільны цукар, «Пальму», выцісhуць крыху соку з лімона. Вельмі хутка вырабіць цеста. Пакласці яго роўным пластом на змазаную тлушчам бляху і вынесці ў халоднае месца. Яблыкі абабраць, сцерці на цёрцы для агародніны, вымяшаць з апельсінавым араматам і пакласці роўным пластом паверх цеста. Пячы каля 20 мінут у моцна гарачай духоўцы ці печы, пакуль яблыкі не пачнуць падрумяньвацца (падпякацца). Тады пасыпаць іх цукрам і яшчэ праз 2 мінуты (пакуль распусціцца цукар) трымаць у гарачай духоўцы. Астудзіце і рэжце на блясе ў квадратныя кавалачкі, выкладайце на талерку.

Аксіння

## Смерць на дарогах

*Як паведамляе нас Ваяводская камендатура МО, у апошніх днях верасня і пачатку кастрычніка на дарогах Беласточчыны ў выніку няшчасных здарэнняў 4 асобы былі забітыя, а 11 пацярпелі параненні. Надалей наглядаецца вялікую колькасць няшчасных здарэнняў, прычынай якіх з'яўляюцца дзеці, пакінутыя без апекі.* (вр)

# Калі гаспадар умее лічыць

(Працяг са стар. 1)

колькі можна зарабіць за кантрактацыю нават аднаго гектара бульбы. Добра аплачвалася гаспадарам Семяноўскай грамады і кантрактацыя лубіну. Пучынскі ў мінулым годзе закантрактаваў 1 гектар яго. Ураджай быў добры. Калі завёз лубін на пункт скупу, увесь лубін прынялі ў найлепшы гатунак, пахвалілі. Думаў, што на гэты год закантрактуе 2 гектары. Пераканаліся ў рэнтоўнасці лубіну многія сяляне, але аказалася, што насенная цэнтраля вырашыла (невядома з якіх прычын) больш не даваць Семяноўскай грамадзе лубіну. «Як хочаце, бярыце гарох», — сказалі там сялянам. А на гарох у Семяноўскай грамадзе зямля слабаватая. Толькі адзін Мікалай Бельскі адважыўся закантрактаваць гарох. Першы год засеяў гектар, але сабраў толькі на насенне. На другі год заплаціў за добрае насенне 1 тыс. злотых і нават тыя грошы не вярнуў. Відавочна, Бельская цэнтраля даволі фармальна падыходзіць да спраў раздзелу кантрактаваных культур.

### МЕРЫНОСЫ

— Бачу ў вас на панадворку рослага барана-мерыноса, — зноў звяртаюся з пытаннем да дзядзькі Пучынскага. — Скажыце, як вы яго даглядаеце? Людзі вельмі гэтым цікавяцца, нават у «Ніву» пішуць і просяць, каб параілі.

— Мерыносы — добрая рэч. Ніякага асаблівага догляду не вымагае. Есць тое ж, што і рэшта авечак. Баіцца толькі вільгаці, дажджу. Ён мае настолькі доўгую і густую воўну, што калі ён раз трапіць пад дождж, дык пару дзён ходзіць мокры. А мокры ён можа вельмі лёгка прастудзіцца і захварэць. Таму стараюся дапільнаваць, каб ён як мага радзей трапляў пад дождж. Клопат з тым невялікі, яле якая карысць з мерыноса. З адной стрыжкі з яго я настрыг 5,8 кг воўны найвышэйшай якасці, за якую атрымаў па 220 зл за 1 кг. Апрача таго, значна палепшылася воўна ў рэшты авечак. Цяпер амаль усе мае авечкі — гэта крыжоўкі мясцовай авечкі з мерыносам.

### МЕХАНІЗАЦЫЯ І ПРАСЦЕЙШАЯ АЎТАМАТЫЗАЦЫЯ

У Пучынскіх дарослых людзей — толькі іх двух — ён ды жонка.

І каб не машыны, не далі б рады. Гаспадар мае свае ўласныя ўсе машыны, неабходныя пры палявых работах: ёсць сеялка, касілка, жняярка, веялка, конная бульбакапалка, млынок і яшчэ цэлы шэраг дробных сельскагаспадарчых прыладаў. Але і гэта не вельмі ратуе. Каб хутка сеяць, жаць, касіць, патрэбен трактар. Дзядзька вынаймае трактар з сельгасгуртка і пацiху марыць калі-небудзь купіць свой уласны. хоць ужываны.

Уласнымі рукамі Пучынскі правёў, на колькі гэта магчыма, аўтаматызацыю гаспадаркі. Замантаваў да студні помпу і вада качаецца проста ў парнік. А парнік не абы-які, 100-літровы. Зімой, каб накарміць усю жывёлу, трэба два разы варыць. Паспрабуйце нанасіцца вядром! З парніка вада спускаецца па спецыяльна зробленаму сцёку і адводзіцца ў яму з фікаліямі. Усе гэтыя сцёкі выводзяцца на поле, і значна паляпшаюць ураджай. У хляве ўсе брамкі зроблены на папярэчных завесах. Такія брамкі не трэба адчыняць пры падачы кармоў, толькі лёгка папхнуць. Так зроблены лазы на выхад свіней у загароду. Тут гаспадар не пераймаецца тым, выпусціць свіней на свежае паветра ці не. Свінні самі вырашаюць аб гэтым. Праз аўтаматычна замыкаемую брамку выходзяць і ўваходзяць назад, калі захочуць.

### СПРАВА ВАПНАВАННЯ

Нядаўна Пучынскі ўзяўся за вапнаванне сваіх палёў. 11 гектараў перавапнаваць — жарты малыя. Трэба мець чым. Вапну дастаў без клопатаў. Але як толькі прыехаў па яе, адразу зразумеў, што клопаты толькі пачаліся. У нараўкаўскім ГС-е вапну прадаюць, не прымяраючы, як селядцы. Важаць ваннач-кай, у якую можна накласці 50 кг вапны. Добра было б, каб кіраўніцтва ГС захацела задумацца, колькі разоў трэба насыпаць і ссыпаць 50 кг вапны, каб адважыць хоць адну тону. Наш размоўца купіў 8 тон вапны. Аж страшна робіцца, калі падумаеш сабе, як мы не ўмеем шанаваць працу сваю і другіх. Рассыпальнікаў вапны выпазычыць таксама не можна, а звычайны сеўнік да гэтага не надаецца. Гаспадар вымушаны быў вапнаваць глебу ўручную. Добра яшчэ, што не трэба вапнаваць штогод.

*

На заканчэнне размовы з Пучынскім цікаўлюся, аб чым ён цяпер марыць. Пытанне задаю зусім неафіцыяльна, не спадзеючыся нейкага сур'ёзнага адказу. І застаюся прыемна здзіўлена адказам. Дзядзька Пучынскі марыць ужо даўно і вельмі сур'ёзна аб тым, каб як найхутчэй можна было перайсці на абсалютна таварную, спецыялізаваную гаспадарку. Хацеў бы вырошчваць на продаж нейкую адну расліну.

— Тады можна было б, — дзеліцца сваімі жаданнямі Пучынскі, — і лепей механізаваць прадукцыю, і лепш навучыцца тую расліну вырошчваць. Можна было б прачытаць усю вядомую літаратуру на тэму гэтай расліны, можна было б больш практыкаваць, правяраць, ды і наогул вывучыць, чаго той расліне трэба.

Я. Чэрнякевіч



ШТО ГЭТА?

*Дзіўная будоўля, якую бачым на здымку, гэта паветраны мост у Афрыцы, які быў аддадзены ў карыстанне ў сакавіку 1966 года. Служыць ён да перавозу медзі з Замбіі да партавых гарадоў Усходняй Афрыкі. (мф)*




Конін, Любінь, Туруў, Рыбнік, Тарнобжэг — гэтыя назвы паўтараюцца ў нас, як малітва. Яны поўныя надзеі. За імі крыецца лепшае, усё лепшае заўтра. Яны звязаны з пасляваеннай гісторыяй краіны і сведчаць аб прамысловай дынаміцы нашай гаспадаркі. Чытачу прадстаўляем сёння карту Польшчы з прамысловымі цэнтрамі, якія ўзніклі пасля 1945 года на базе новаадкрытых залежаў. (вл)



*Кругом света*

*Жыхар Амерыкі Мот выбраўся ў падарожжа кругом света маленькім самаходам, які сам сканструяваў. Самаход гэты змяшчае ледзь аднаго пасажыра. Да гэтага часу ён наведаў 28 краін і праехаў 57.000 кіламетраў. (мф)*

## Мала, але цікава...

### КОЛЬКІ НАС ХВАРЭЕ НА РАКА?

На ўсёй зямлі паводле даных ёсць 5.000.000 хворых на рака. У мінулым годзе ў СССР лекарскі агляд прайшло 68 мільёнаў чалавек. І аказалася, што... У кожнага сотага, пераважна ў людзей пасля 35 год, былі выяўлены розныя захворванні, якія ў далейшым могуць развіцца ў рака. У кожнага тысячнага, сярод даследваных, рак ужо быў.

### ПРЫРОДА І ДАЎГАВЕЧНАСЦЬ

Амерыканскі вучоны др Самуіл Росен разам з групай савецкіх лекараў правёў доследы над даўгавечнасцю людзей Каўказа. Як вядома, у гэтай частцы СССР ёсць многа людзей пасля 100 год. Доследы праводзіліся над спосабам жыцця даўгавечных, іх ежай, колькасцю сну, працы, прывычкамі.

Вывады вучонага.

1. Галоўным сакрэтам доўгага веку ёсць жыццё на ўлонні натуры, без клопатаў і нервовага напружання.
2. Ежа даўгавечных складаецца: з мяса (пераважна бараніны), гародніны, сыра, пладоў. Не ядуць яны масла.
3. Не пераядаюцца і спяць вельмі мала.
4. Працуюць фізічна вельмі цяжка, і таму ўсе высмуклыя і мускулістыя.
5. Большасць даследаваных не курыць, або курыць вельмі мала.
6. Адзінай з'явай, аб якой др Росен гаворыць, што даўгавечныя перабралі меру, гэта віно. Ён бачыў 102-гадовага мужчыну, які наліў у рог літр віна і выпіў яго без адпачынку. (а-вл)

# СПОСАБЫ ПАЯДЫНКАЎ

У нашыя дні праўдзівых паядынкаў амаль не бывае. Мінулі тыя часы, калі спрэчкі паміж дваімі людзьмі вырашаў меч, шабля ці пісталет. Зрэшты, не толькі гэтымі прыладамі змагаліся людзі ў абароне свайго гонару. Вядомыя і такія паядынкі, як паядынак на казытанне. Двое людзей з паўлінавымі пер'ямі ў руках у поўнай цішыні ўваходзілі па знаку секунданта ў кола дыяметрам трох метраў і пачыналі гэтымі пер'ямі казытаць адзін другога. Звычайна, ніводзін з іх не вытрымліваў больш чым дваццаць — дваццаць пяць мінут. Хто першы засмяяўся — той праігрываў. Такія паядынкі былі прыняты ў племені сакаі на паўвостраве Малака.

Яшчэ ў пачатку нашага веку карэнныя жыхары вострава Барнеа вырашалі ганаровыя справы не менш арыгінальна. Мужчыны, што пасварыліся, выклікалі адзін другога на бой, які праводзілі за іх... іхнія жонкі. А пасвараныя мужчыны толькі наглядалі за паядынкам і чакалі выніку.

Не так даўно ў афрыканскім племені суахілі модны быў такі паядынак: пасвараныя скакалі ў раку, у якой аж кішэла ад кракадзілаў, і плылі да другога берагу. Хто даплыў жывым, той лічыўся пераможцам. Калі да берагу даплывалі абодва жывымі, тады працэдура паядынку паўтаралася.

Еўрапейскія паядынкі некалі былі падобнымі на свята. Месца паядынку, старанліва выбранае, агароджвалі і рабілі месца для публікі. Прымаючыя ўдзел у паядынку прысягалі, што будуць змагацца ганарова ды без хітрасцей, суддзі рабілі дакладны агляд сваіх падапечных. Потым раздаваўся сігнал і пачыналася дзея, падобная да цяперашняга боксу, але з мячамі ў руках і без літасці да пераможанага.

Барацьба супроць паядынкаў у розных краінах мела розныя формы, нават цалкам неспадзяваныя — ад выстаўляння на пасмешышча ля слупа ганьбы ў Нью-Йорку да стварэння антыпаядынкавага таварыства ў Англіі. У выніку такой барацьбы пачалі быць моднымі паядынкі без сведкаў і так званыя «амерыканскія паядынкі», калі праціўнік цягнуў лёс згодна з якім адзін з двух павінен быў закончыць жыццё самагубствам, беручы ўсю адказнасць на сябе. Паводле «амерыканскага паядынку» змагаўся вядомы французскі пісьменнік Аляксандр Дзюма-бацька. Штопраўда, ён схітраваў. Дзюма паспрачаўся з адным кавалерыйскім афіцэрам і паводле «амерыканскіх» правіл цягнуў лёс. Выцягнуў якраз той лёс — кавалак паперы — са словам «смерць», узяў пісталет, смутна развітаўся з сябрамі і выйшаў у суседнюю кватэру — страляцца. Пачуўся стрэл... Усе кінуліся ў дзверы кватэры, расчынілі іх і застылі ад дзіва. На іх спакойна глядзеў жывы і цэлы Дзюма. «Прамахнуўся, не папаў»! — вытлумачыў ён. Як паведамляе гісторыя, найграмчэй з усіх рагатаў кавалерыйскі афіцэр, ашаломлены дасціпнасцю аўтара «Трох мушкецёраў».

Сто пяцьдзесят год таму назад у Францыі адбыўся паядынак на паветраных шарах на вышыні 400 метраў. Куля трапіла ў адзін з шараў, які разарваўся і пілот загінуў.

Існуе легенда аб незвычайным паядынку паміж нямецкім канцлерам Бісмаркам і вучоным Вірховам. Бісмарк дасканала ўмеў фехтунак, а з пісталета страляў без прамаху. Вірхаў не ўмеў нічога і быў блізарукім чалавекам. Таму вучоны прынёс на месца паядынку футляр для пісталетаў, у якім ляжалі... дзве каўбаскі. «Адна з гэтых каўбасак заражана смерцяносным бацылам. Выбірайце!» — запрапанаваў вучоны Бісмарку. І Бісмарк адрокся, забаяўся!

Якімі бываюць паядынкі ў нашыя дні? Нядаўна падарожнікі бачылі на пыльных перыферыйных вуліцах аўстралійскага горада Квінсленда жудасныя паядынкі на бічы. Усім, хто прабаваў разагнаць паядынак, таксама дасталася «дзе папала».

У 1945 годзе англійскія газеты апісалі аўтамабілевы паядынак. У лонданскім бары палаяліся два шафёры. Раз'ятрыўшыся, пасядалі ў свае машыны, цяжкія грузавікі і пачалі ганяць адзін другога па рынку, пакуль не грымнуліся лоб у лоб. З аўтамабіляў засталася горба жалеза, а шафёраў адвезлі ў бальніцу... Як відаць, паядынкі адбываюцца і ў наш час. (а-ся)

# ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ „П-Т-ІКС"

Й ГОРНУНГ

Адмірал Канарыс не быў задаволены вынікамі акцыі супраць «П-Т-Ікс» і іншых дзвюх радыёстанцый. Агентам абвера не ўдалося ўзяць разведчыкаў жывымі. Радыст і маладая жанчына, якая знаходзілася разам з ім у пакоі, пакончылі самагубствам. У памяшканні, дзе знаходзіўся перадатчык, не знойдзена было нічога, што магло б указаць абверу на астатніх членаў арганізацыі. След абрываўся...

Адмірал прыйшоў да вываду, што пеленгацыйная сістэма функ-абвера не здала экзамену, і ў пачатку студзеня 1942 года рэарганізаваў яе, утварыўшы два аддзелы — усходні і заходні. Усе станцыі, якія працавалі ў акупіраваных краінах Захаду на карысць Савецкага Саюза, былі «замацаваны» за заходнім аддзелам функ-абвера, начальнікам якога стаў капітан Модэль. У дапамогу яму быў прызначаны капітан Шустэр з пеленгатарнага пункта ў Кранцы. З той прычыны, што секцыі шыфраў ОКВ да гэтага часу не ўдалося прачытаць ніводнага з падслуханых тэкстаў. Шустэр дамовіўся з пеленгатарнай групай арміі «Захад», каб яна адкамандзіравала для разгадкі шыфраў аднаго з найбольш вядомых спецыялістаў у гэтай галіне, прафесара вышэйшай матэматыкі, лейтэнанта доктара Фаута. Запрасілі таксама пэўную колькасць студэнтаў матэматычнага факультэта Берлінскага ўніверсітэта і стварылі спецыяльную групу даследавання шыфраў і пры функ-абверы. У лютым 1942 года доктар Фаут прыступіў да працы над рашэннем загадкі «П-Т-Ікс».

## ДОКТАР ФАУТ ДЗЕЙНІЧАЕ

Дэталёвае даследванне радыёграм, дастаўленых з пеленгатарных пунктаў, не дало ніякіх вынікаў. Нягледзячы на ўсемагчымыя метады, ужытыя доктарам Фаутам, шыфраў не ўдавалася разгадаць. Цяпер ужо не было ніякага сумнення, што савецкая разведка пры шыфраванні сваіх інфармацый карысталася нейкай кніжкай.

— Неабходна любой цаной знайсці гэтую кніжку, — сказаў Фаут капітану Модэлю, калі ўсе намаганні пацярпелі правал. — У адваротным выпадку нам ніколі не ўдасца разгадаць гэтую загадку. Я раіў бы вам паехаць у Брусель і абшукаць тую вілу ў Муленбеку, дзе выкрылі перадатчык. Можа вам пашанцуе натрапіць на які-небудзь след.

Модэль з двума іншымі афіцэрамі абвера неадкладна выехаў у Брусель і наведаў гаспадыню вілы ў Муленбеку. Жанчына пацвердзіла, што ў людзей, якія абслугоўвалі радыёстанцыю, яна заўважыла некалькі кніжак — яны заўсёды ляжалі на стале каля акна, дзе стаяў таямнічы чамадан.

— Я думаю, што вы запомнілі назвы некаторых кніг, — рэзка заявіў Модэль, — ва ўсякім выпадку так было б лепш для вас.

— О, так, — хутка згадзілася мадам Дэртфуа, — гэта былі: «Чырвонае і чорнае» Стэндаля, «Бацька Гарыо» Бальзака, «Сірано дэ Бержэрак» Растана і «Цуд прафесара Тэрамона» Гі дэ Ласерфа.

— Я хацеў бы паглядзець гэтыя кніжкі, — сказаў Модэль. — Думаю, што яны знаходзяцца па-ранейшаму ў пакоі на другім паверсе, ці не так?

Мадам Дэртфуа растлумачыла, што праз некалькі дзён пасля таго, як яе выпусцілі з гестапа, дзе яна была нейкі час пасля ліквідацыі станцыі, прыйшлі да яе два мужчыны і, назваўшыся супрацоўнікамі гестапа, забралі ўсё, што знаходзілася ў пакоі на другім паверсе.

— Zum Teufel! — прыйшоў у шаленства расчараваны Модэль.

Значыцца, гестапа ўмяшалася ў працу абвера. Гэтага нельга было дапусціць ніякім чынам. Модэль ускочыў у машыну, загадаў шафёру ехаць да маёра Маера і разам з ім накіраваўся да шэфа гестапа, каб высветліць справу. Штурмбанфюрэр Дэгель аднак нічога не ведаў аб тым, каб хто-небудзь з гестапа меў якія-кольвек справы ў Муленбеку.

— Панове, — сказаў ён, — баюся, што гэтыя два чалавекі з'явіліся туды для таго, каб замесці сляды...

Модэль зразумеў, што ён павінен дзейнічаць хутка, каб не даць праціўніку часу на поўную рэарганізацыю разведвальнай сеткі, бо тады ўсе пошукі трэба было б пачынаць нанава. Шэф парыжскага абвера палкоўнік Рэлінг па просьбе Модэля адразу ж пачаў пошукі кніг, якія назвала мадам Дэртфуа. Праз тры дні доктр Фаут мог прыступіць да працы, і неўзабаве яму ўдалося суаднесці 97 шыфраграм з тэкстам кніжкі «Цуд прафесара

# ТРЫБУНА чытачоў



Савецкая капарка Е.Т.№. 171 у час працы.



Францішак Эляшук укладае дрэны.

## Для лепшых плёнаў Беласточчыны

Раённае прадпрыемства водна-меліярацыйных работ у Бельску вядзе работы ў паветах: Бельскім, Сямяцицкім, Гайнаўскім, Лапскім, Высокамазавецкім, Беластоцкім.

Найбольшыя яго работы гуртуюцца ў Бельскім павеце. Яны сягаюць вартасці 9.625.000 зл.

Дрэнаванне праводзіцца ў вёсках: Шмурлы, Аленды і Орля. План дрэнавання быў на 636 гектараў. Выканана ўжо 520 гектараў.

Меліярацыйныя работы вядуцца савецкімі машынамі.

**П. Зінкевіч**

### ПА-БЕЛАРУСКУ Ў ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

Адным вераснёвым вечарам у клубакавярні ў Дубічах Царкоўных адбыўся сход моладзі. На гэты сход прыбыў член Павятовага праўлення БГКТ тав. Васіль Дзун, які расказаў аб дзейнасці гурткоў беларускага таварыства. Сход быў прысвечаны ацэнцы мясцовага гуртка БГКТ, які за апошні час значна занядбаўся. На сходзе ў гурток запісалася некалькі чалавек. У праўленне яго ўвайшло дзве асобы: светліцовая — **Валя Хілімонюк** і старшыня грамадскай рады **Мікола Чыквін.**

Члены гуртка і яго праўленне забавязаліся ў хуткім часе наладзіць працу сваёй арганізацыі і арганізаваць беларускія гурткі БГКТ у вёсках: Тапоркі, Тафілаўцы і Еленка. А ў сябе зрабіць аматарскі калектыў.

**Мікалай Панфілюк**

### ЯК НЕ ДАВАЦЬ, ТО НЕ АБЯЦАЦЬ

У Гаркавічах (Сакольскі павет) 10.XI. 1963 года адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме, у якім жыў Павел Валошын, былы пасол «Грамады». Сабралося тады многа людзей з акалічных вёсак на ўрачыстасць. Прыбылі прадстаўнікі павятовых улад з Сакол-кі.

Дом, у якім жыў Павел Валошын, ужо стараваты і крыты саломай. У ім жыве брат Паўла Валошына — Аляксей. Прадстаўнікі павятовых улад на гэтай урачыстасці абяцалі Аляксею Валошыну, што дадуць дахоўку пакрыць дом. Людзі іранічна цяпер прыпамінаюць Аляксею: «доўга табе, Аляксей, у Саколцы дахоўка робіцца». Аляксей адказвае: «абяцанка цацанка, а дурному радасць».

Мінае ўжо 3 гады, а дахоўкі як не было, так і няма.

Калі не даваць, то і не абяцаць.

**А. С.**

Тэрамона». Фаут адкрыў таксама, што ўсе радыёграмы, высланыя станцыяй з Муленбеку, былі падпісаны псеўданімам «Кент», а шыфроўкі, якія перадаваў Цэнтр, былі адрасаваны «Кенту». Адсюль Фаут зрабіў вывад, што «Кент», відаць, быў кіраўніком бельгійскай групы.

З тэксту радыёграм вынікала, што гэты чалавек павінен быў часта падарожнічаць. І ўсюды — у Францыі, Бельгіі, Галандыі і Германіі — ён атрымліваў ад сваіх людзей звесткі і разведвальную інфармацыю першаступеннай вагі. У тэкстах таксама часта паўтараліся псеўданімы нейкага «Жыльбера» і «Кора». Фаут меркаваў, што «Кент» і «Жыльбер» — адна і тая ж асоба. Найбольш за ўсіх аднак цікавіў доктара таямнічы «Кора», які падпісваўся пад усімі данясеннямі, высланымі адной з берлінскіх радыёстанцый. Шыфраграмы перададзеныя ім, змяшчалі інфармацыю такога характару, што на думку Фаута, гэты чалавек павінен быў займаць нейкую адказную пасаду ў ОКВ або якім-небудзь міністэрстве і меў доступ да самых сакрэтных дзяржаўных дакументаў.

*(Працяг будзе)*




Дарагое Сэрцайка!

Заўсёды чытаю твае парады ў «Ніве». Хачу, каб і мне параіла. Маю 17 год і скончыла пачатковую школу. Жыву пры бацьках і жанатым брату. У брата чацвёра дзяцей. Дома няма згоды. Таму я падумала, каб дзе-небудзь пайсці да працы, або паступіць у якую-небудзь школу ці курсы. Парай, дзе мне звярнуцца.

**Зося з Бельшчыны**

Дарагая Зося!

У гэтай справе звярніся ў Аддзел затруднення ў сваім павеце. Там знойдуць табе якую-небудзь працу або накіруюць да адпаведных улад у справе курсаў. Раю звярнуцца не пісьмова, а эсабіста. (Часта аб'явы такія бываюць і ў «Газеце Беластоцкай».

«Дарагое Сэрцайка! Жыву на Гайнаўшчыне. Ад пачатку новага школьнага года стараюся купіць беларускія кніжкі да VII класа, але не магу нідзе дастаць. Парай, дзе іх можна купіць», — піша Янка з Гайнаўшчыны.

Янка! На жаль, беларускія кніжкі да VII-га класа яшчэ не выйшлі з друку Бліжэйшых інфармацый аб іх выхадзе не магу табе падаць.

**Сэрцайка**

## На карысць вёскі Рэдуты

*У вёсцы Рэдуты, што на Бельшчыне, па ініцыятыве тутэйшай пажарнай каманды нядаўна зроблена грамадскім чынам фундамент пад сушарню, у якой маюць сушыцца пажарныя вужы і іншыя гумовыя прылады. Трэба адзначыць і тое, што пажарная каманда ў Рэдутах існуе даўжэйшы час і многа разоў была на пажарах. Яе члены — гэта людзі адважныя, ахвярныя, а каманда дбае пра ўсё лепшы ўзровень іх ведаў. Будова сушарні пачнецца ў хуткім часе. Варта падзякаваць каменданту стражы Дзмітру Бахэнку, які многа дапамог у рэалізацыі карыснай ініцыятывы.* *М. Панфілюк*

## Нараўская бульба

*Штодзённа 16 тон бульбы забіраюць з нараўскага ГС-у машыны ПТГВ і вязуць у Беласток. Шафёры Юзэф Маліноўскі і Тадэуш Глажэўскі ветлівыя да людзей і стараюцца хутка грузіць бульбу на самаходы.*

*Варта толькі, каб падумалі кіраўнікі ГС-у ў Нарве і далі памочніка загадчыку склада Сцяпану Гэве выпісваць квіты. Тады хутчэй бы ішла праца. Не чакалі б грамадзяне, якія прывозяць вазамі бульбу ў ГС.*

*«Ярош»*
Белкі

## Гасподы

*На Сакольшчыне ГС-ы будуюць чатыры новыя гасподы. Кажуць людзі, што Ліга жанчын намерана пратэставаць супроць такіх інвестыцый...* *(ся)*

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| **жыта** | **цэнт.** | **350** | **350** | **300** |
| **пшаніца** | **цэнт.** | **500** | **450** | **450** |
| **яйкі** | **1 шт.** | **2** | **2** | **1,75** |
| **масла** | **кг** | **60** | **60** | **60** |
| **ялавічына** | **кг** | **34** | **—** | **—** |
| **свініна** | **кг** | **36** | **36** | **35** |
| **сала** | **кг** | **34** | **35** | **35** |
| **бульба** | **цэнт.** | **90** | **75** | **80** |
| **цыбуля** | **кг** | **5** | **5** | **4** |
| **капуста** | **кг** | **2,50** | **2** | **1** |
| **морква** | **кг** | **1,50** | **2** | **2** |
| **буракі** | **кг** | **1,50** | **2** | **2** |

# КІНО

Праграма
на 18—23.X.1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Spotkanie w Warszawie" (polski), 18—19. „Baza ludzi umarłych" (polski), 20—21. „Fatalny list" (angl.), 22—23.

**Кляшчэлі**
„12 milionów Holendrów" (holenderski), 18—19. „Tak blisko nieba" (czeski), 20—21. „Dwie strony medalu" (angl.), 22—23.

**Дубіны**
„Kto sieje wiatr" (USA). „20 godzin" (węgierski), 22—23.

**Нарва**
„Jesienny dzień" (wietnamski). „Kapral i inni" (węgierski), 19—23.

**Нараўка**
„Mam 20 lat" (radz.), „Kiermasz" (NRF), 19—23.

**Чыжы**
„Mam tu swój dom" (polski). „Artysta do wszystkiego" (radziecki), 19—23.

**Дубічы Царкоўныя**
„Zakochani są między nami" (polski), 19—23.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Olbrzym" (USA), „Kosmos wzywa" (radz.), 19—23.

**Орля**
„Milczenie (radz.), „Kronika jednego dnia" (radz.), 19—23.

**Райск**
„Gorąca linia" (polski), „Jojo" (franc.), 19—23.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Nieletni świadek), (angl.), „O carski tron" (bułg.), 20—21.

**Міхалова**
„Porucznik Marynin" (radz.), 18—19. „Pieczone gołąbki" (polski), 20—21, „Kwiecień" (polski), 22—23.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Błękitny krzyż" (polski), 18—19, „Fatalny list" (angl.), 20—21. „Wystrzał" (polskj), 22—23.

**Мілейчыцы**
„Tytoń" (bułg.), 18—19. „Następcy tronów" (wietnamski), 20—21. „Złoto" (polski), 22—23.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Zobaczymy się w niedzielę" (polski), 18—19, „Hasło bez odzewu" (bułg.), 20—21.

**Шудзялава**
„Król strzelców" (czeski), „Dom z facjatą" (radz.), 18—23.

**Сідра**
„Światła w oknach" (radz.), 18—19. „Ucieczka z Paryża" 20—21 „Nieznany" (polski), 22—23.

**Сухаволя**
„Dziewczyna kłamie" (jugosłowiański), „Pojedynek" (radziecki), 19—23.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Czas miłości" (rumuński), dziecki), „Człowiek z fotografii") 23.

**Ліпск**
„Był sobie dziad i baba" (radziecki), „Człowiek z fotografii" (jugosł.), 22—23.

### ТЭАТР ІМ ВЯНГЕРКІ
**(выязная група)**

**Дуброва**
„Szklana menażeria" — 20. X.

**Гайнаўка**
„Szklana menażeria" — 21. X.


# НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6880 Bltk D-3

